*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№41 верасень 2014***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## У Гародні прайшла першая публічная сустрэча пасля вызвалення з праваабаронцам, кіраўніком Праваабарончага Цэнтра "Вясна" Алесем Бяляцкім.




**Стрыжнем сустрэчы стала прэзентацыя яго кнігі "Іртутнае срэбра жыцьця". Кніга напісана ў зняволенні, калі даводзілася аўтару пісаць у вельмі неспрыяльных варунках.**

## У Гародні міліцыя затрымала моладзевую актывістку



У Гародні 19 верасня міліцыя затрымала грамадскую актывістку Вольгу Крапоціну. Затрыманне адбылося ў цэнтры гораду каля гандлёвага цэнтру “Баторыя”. У Вольгі Крапоцінай забралі 17 улётак з тэкстам “Вярніце Крым Украіне”, а яе саму павезлі ў аддзяленне міліцыі па вуліцы Гараднічанскай. Туды ж неўзабаве прыехалі журналісты. Праваабаронец Уладзімір Хільмановіч хацеў прайсці ў пастарунак разам з затрыманай, але яго туды не пусцілі. Вольгу Крапоціну чакалі дзве гадзіны, за гэты час міліцыянты склалі пратакол яе апытання. Адразу Крапоціну не выпусцілі, а павезлі па месцы жыхарства – там у інтэрнаце быў праведзены агляд памяшкання. Ніякай друкаванай прадукцыі выяўлена не было, але міліцыянты забралі ў пакоі ноўтбук, які не належаў Крапоцінай.

## Віктару Парфёненку адмовілі ў журналісцкай акрэдытацыі ўжо сёмы раз!



Гарадзенскаму журналісту-фрылансеру Віктару Парфёненку, які супрацуе з Беларускім Радыё Рацыя, чарговы раз адмовілі ў акрэдытацыі як карэспандэнту. Не дачакаўшыся пісьмовага адказу ад чыноўнікаў журналіст патэлефанаваў у МЗС Беларусі, дзе яму паведамілі, што яго заяўка зноў не задаволена. Парфёненка запатрабаваў каб яму пісьмова даслалі гэтую адмову, як належыць паводле заканадаўства.

Сітуацыю каментуе Віктар Парфёненка: “Гэтая адмова, сёмая па ліку, ужо мяне больш смяшыць, чым наганяе сум. Гэта, як біцца галавой аб мур. Але разам з тым, гэта паказнік сапраўдных вартасцяў чынавенства МЗС. Я планую весці справу да судовага развязання, ажно да апеляцыі да Камітэта па правах чалавека. Апошняя мая заяўка і з фармальнага, і з юрыдычнага гледзішча адпавядала ўсім патрабаванням палажэння пра акрэдытацыю. Таму, я маю маральнае права працягваць змагацца за свае права на прафесію”.

Для гарадзенскіх незалежных журналістаў склалася сітуацыя замкнёнага кола – перыядычна яны атрымліваюць папярэджанні з пракуратуры, некалькі сяброў БАЖ ужо былі аштрафаваныя ў выніку адміністрацыйных працэсаў за нібыта “незаконны выраб і распаўсюд інфармацыі”. Фактычна гэта азначае забарону на прафесію і парушэнне з боку ўлады канстытуцыйных правоў грамадзян.

## Працягваецца пераслед журналіста Андрэя Мялешкі



Гарадзенскія ўлады працягваюць пераследаваць незалежнага журналіста Андрэя Мялешку. На гэты раз адміністрацыйную справу – зноў паводле артыкулу 22.9 – частка 2 супраць фрылансера пачаў суд Гарадзенскага раёну. Андрэя Мялешку вінавацяць у незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыі. Пратакол пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне быў складзены завочна. Напомнім, што 16 чэрвеня бягучага году суд Кастрычніцкага раёну аштрафаваў журналіста на 4 з паловай мільёна беларускіх рублёў за падрыхтаваны матэрыял для “Беларускага Радыё Рацыя”. Прысуд аформіў Дзмітрый Кедаль.

Выклік на новы судовы працэс быў аформлены дзяржаўнымі структурамі са значнымі працэсуальнымі парушэннямі. Мялешка атрымаў пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне праз пошту. У іншым лісце прыйшло паведамленне, што справа можа быць разгледжана без удзелу журналіста. У гэтым паведамленні з Кастрычніцкага РАУСу не пазначана ні дата пачынання справы, ні хто яе пачаў. Гэтыя лісты прыйшлі без пячатак, а ў пратаколе напісана, што быў апытаны нейкі невядомы сведка.

Адміністрацыйная справа супраць Андрэя Мялешкі павінна быць разгледжана ў чацвер 2 кастрычніка а палове 10-й у Гродзенскім раённым судзе.

# Палітычны покер

***Пятага верасня ў сталіцы Беларусі быў падпісаны пратакол па выніках паседжання кантактнай групы па Украіне. Сама назва гэтага дакумента ўжо гаворыць за сябе. “Пратакол па выніках кансультацый Трохбаковай кантактнай групы адносна сумесных крокаў, скіраваных на імплементацыю Мірнага плана Прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі і ініцыятыў Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна”.***

Ну чаго добрага можна чакаць ад дакумента з такой назвай? Шэраг аналітыкаў ужо прадказваюць яму нядоўгае існаванне, калі такое будзе ўвогуле. Бо “план Парашэнкі” і “ініцыятывы Пуціна” – гэта рэчы дыяметральна супрацьлеглыя. Па іх дамовіцца немажліва ў прынцыпе. Кіраўнік Украіны марыць пра незалежную дзяржаву ў яе непарушных межах, уключаючы Крым, а таксама Луганскую, Данецкую вобласці, ды іншыя ўкраінскія тэрыторыі. Ну а Пуцін Крым абвясціў тэрыторыяй Расейскай Федэрацыі, спрэчнымі землямі лічыць не тое, што той Луганск з Данецкам, але нават і Адэсу, а ўкраінскую дзяржаўнасць разглядае як недарэчную памылку гісторыі, якую трэба тэрмінова выпраўляць. Зрэшты, чым ён паслядоўна, апантана ды паспяхова і займаецца апошнім часам.



Дык вось, па законах жанру, калі два такіх супрацьлеглых погляды ўсаджваюцца за адным сталом для падпісання агульнавыпрацаванай канцэпцыі, то гэта можа азначаць толькі адно – што як мінімум адзін з бакоў прадстаўляе падманшчык. Шулер. Таксама здаўна вядома яшчэ з тэорыі і практыкі картачных гульняў у покер, бакару і нават у дурня, што сумленны гульбок прайграе шулеру не ў час гульні, а калі толькі сядае з ім за адзін стол. Не хочаш каб цябе цынічна падманулі – не сядай з шулерам. А калі нейкі наіўны гульбок усё ж спадзяецца сам падмануць шулера, то на гэта ёсць яшчэ адна народная мудрасць, якая сцвярджае, што подлага не пераподліш, нахабнага не перанахабнічаеш, а ілжывага не пераілжэш. Пры ўмове, што ты сам не большы падлюка чым той.

Ну то так і сталася. Як спяваў некалі Уладзімір Высоцкі “не прайдзе і поўгода”, а ў нашым выпадку не прайшло і паўсутак, як абодва бакі звінавацілі адзін аднаго ў парушэнні падпісаных дамоўленасцяў. Што і трэба было даказаць. Бо шулер не толькі ніколі не вядзе чэснай гульні, але яшчэ заўсёды абвінавачвае ў шулерстве свайго апанента. І так таму і трэба. Бо няма чаго сядаць за адзін стол з шулерам.

Але нават каб ніхто не парушыў гэтага пагаднення, а ў будучым, уявім сабе такі цуд, абодва бакі пачнуць яго выконваць бездакорна, то што мы бачым у ім. Спыніць агонь і памяняцца палоннымі справа святая. Проста такія дамоўленасці лепш выконваюцца, калі пра тое дамаўляюцца самы ваякі, а не палітыкі. Ну а што далей? Далей мы бачым, што ў Менску бакі дамовіліся па-сутнасці пра асаблівы статус Луганшчыны ды Данеччыны. Дамовіліся правесці там дэцэнтралізацыю ўлады. І яшчэ пра выбары там у мясцовыя органы ўлады, нібыта нехта верыць у мажлівасць правядзення ў гэтых рэгіёнах справядлівых выбараў. І гэты дакумент, разам з былым украінскім кіраўніком, расейскім паслом і паслом АБСЕ падпісвалі і прадстаўнікі сепаратыстаў.

Ну дык менавіта гэтага патрабаваў Крэмль яшчэ да пачатку баявых дзеянняў! Узнікае лагічнае пытанне – навошта цяпер ён будзе мяняць нешта ў сваёй тактыцы і стратэгіі, калі яны прыносяць яму перамогу? Прычым на ўсіх франтах. І на палітычным таксама. Мяркуйце самы. Еўрапейцы, замацаваўшы патрабаванні, а значыць і перамогу Масквы дакументальна, пачалі ўжо разважаць пра замарожванне працэсу пашырэння санкцый супраць Расеі. І ніхто нават не заікаецца, што яшчэ некалькі месяцаў назад, такія рэчы як дэцэнтралізацыя ўкраінскай улады, або удзел у перамовах сепаратыстаў, лічыліся недапушчальнымі.

Ну што ж. Зараз, хаця б дзеля смеху, застаецца толькі перапісаць тое, што сёння лічыцца недапушчальным. Прыкладам, пагрозы цэласнасці тэрыторый некаторых усходніх чальцоў НАТА, каб заўтра гэтае пытанне зноў убачыць у чарговых дамоўленасцях, як другасную па значэнню тэму новых палітычных перамоў.

*Віктар Сазонаў*

## У Гародні адсвяткавалі 500 год Аршанскай бітвы




Набажэнствы і канцэрт, прысвечаныя 500-й гадавіне перамогі пад Воршай войскаў Вялікага Княства Літоўскага над Маскоўскім войскам, прайшлі ў гарадзенскай катэдры імя Францішка Ксаверыя.

Багаслужбу замовілі два дыпламатычныя прадстаўніцтвы, якія дзейнічаюць у Гародні: Генеральныя консульствы Польшчы і Літвы. Набажэнства праводзілася на латыні, а казанне чыталася папольску.

Прысутны там грамадскі актывіст Мікола Воран шкадуе, што такое вялікае нацыянальнае свята ўсяк ігнаруецца ўладамі ў Беларусі.

- Як беларусу мне вельмі прыкра, што ў гэты дзень людзі не ведаюць свайго вялікага гістарычнага свята. Гэта падзея, якая вывучаецца ў навучальных установах вайсковага тыпу ва ўсім свеце, акрамя Беларусі. Мне вельмі прыкра, што гэты дзень ніяк не адзначаецца на дзяржаўным роўні, што пра гэта не ведаюць жыхары нашых гарадоў і вёсак, што гэта ўсё забыта. Мне вельмі прыкра.

У час імшы катэдра была запоўнена людзьмі. Завяршыў урачыстае мерапрыемства канцэрт беларускага, польскага ды літоўскага хораў. Ад беларусаў спяваў хор "Унія".

## 23 гады таму нацыянальным сімвалам вярнулі статус дзяржаўных

19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет БССР прыняў новае імя нашай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь, а таксама зацвердзіў дзяржаўную сімволіку — герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг, якія заставаліся дзяржаўнымі да 1995 года, калі пасля рэферэндуму, ініцыяванага Лукашэнкам, была вернутая перайначаная савецкая сімволіка.

Гербу „Пагоня" – больш за 600 гадоў. Выява збройнага вершніка было папулярным сімвалам ва Усходняй Еўропе. Да 1366 адносіцца дакумент з пячаткай, які паказвае вершніка з мячом. З канца XIV стагоддзя вершнік намаляваны на фоне геральдычнага шчыта – на пячатках вялікіх літоўскіх князёў




Ягайлы і Вітаўта. Беларуска-літоўскія летапісы першай паловы XVI стагоддзя прыпісваюць стварэнне герба легендарнаму вялікаму князю XIII стагоддзя Нарымунту Раманавічу. «Пагоня» была элементам герба Рэчы Паспалітай да яе падзелу ў 1795 годзе. Пасля гэтага «Пагоня» як частка некаторых губернскіх гербаў трапіла ў склад дзяржаўнага герба Расеі.

Да 1900 года «Пагоня» з'яўлялася асноўнай альбо складовай часткай 22-х гербаў гарадоў Расейскай Імперыі, трох губерняў і адной вобласці.

У 1918 годзе «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнымі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі, у савецкі час яны былі пад забаронай, але заставаліся сімваламі супраціўлення. Імі яны застаюцца і цяпер.

## Заява ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» у сувязі з пераследам журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі медыя (скарочана)

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» заяўляе пра неправамернасць пераследу рэпарцёраў, чые імёны і матэрыялы з'яўляюцца ў замежных СМІ. Ціск на такіх журналістаў мае адкрыты характар запалохвання і шантажу ??і супярэчыць нормам нацыянальнага заканадаўства і міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь у галіне забеспячэння свабоды распаўсюду інфармацыі.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» звяртае ўвагу, што палажэнні артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях «Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі» не ў першы раз выкарыстоўваюцца неправамерна ў дачыненні да журналістаў, якія накіроўваюць свае матэрыялы ў замежныя медыя. Такая практыка парушае як унутранае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, так і міжнародныя абавязальніцтвы нашай дзяржавы ў сферы свабоды выказвання меркавання.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» пратэстуе супраць пераследу ў адміністрацыйным парадку журналістаў, якія размяшчаюць свае матэрыялы ў замежных медыя.

Мы патрабуем:

- каб супрацоўнікі органаў унутраных спраў, іншых дзяржаўных органаў і іх службовыя асобы спынілі адміністрацыйны пераслед журналістаў-фрылансераў і ціск на іх у сувязі з размяшчэннем імі матэрыялаў у замежных СМІ;

- каб упаўнаважаныя службовыя асобы прынеслі пратэсты на судовыя рашэнні, вынесеныя ў дачыненні да журналістаў па ч.2 арт.22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях;

- каб суб'екты нарматворчасці Рэспублікі Беларусь прывялі акты заканадаўства Рэспублікі Беларусь у сферы свабоды выказвання меркавання ў адпаведнасць з Канстытуцыяй і МПГПП.

Прынята Праўленнем ГА «БАЖ», 26.09.2014 г.

# Міхась Кукабака: Гісторыя перапісваецца пад дыктоўку чарговага «правадыра» Пуціна

**Былы палітычны вязень пермскіх лагераў Міхась Кукабака падзяліўся з «Вясной» сваім меркаваннем наконт знішчэння адзінага музея памяці ахвярам ГУЛАГа «Перм-36».**

***Нагадаем, што скандал вакол Мемарыяльнага цэнтра гісторыі палітычных рэпрэсій «Перм-36», створанага ў 1990-я на месцы савецкага лагера строгага рэжыму, разгарэўся яшчэ на пачатку гэтага года. Тады ўрад Пермскага краю перастаў аплочваць камунальныя рахункі ўстановы, кіраўніцтва рэгіянальнага Міністэрства культуры адправіла ў адстаўку дырэктара музея Таццяну Курсіну, а ў СМІ ўвесь гэты час з'яўляліся ўзаемныя абвінавачванні краявых уладаў і праваабаронцаў. У ліпені актывісты аўтаномнай некамерцыйнай арганізацыі «Перм-36» заявілі пра знішчэнне часткі экспазіцыі, а таксама абвінавацілі новае кіраўніцтва музея ў ціску на арганізацыю. «Тое, што да нядаўняга часу мелася на ўвазе, абмяркоўвалася ў кулуарах, пра што намякалася, цяпер стала відавочным: выставачныя, адукацыйныя, асветніцкія і гуманітарныя праекты, якія развівала на базе Музея АНА «Перм-36», больш Адміністрацыі Пермскага краю не патрэбныя, - гаварылася ў заяве на сайце музея. - Ды і сам музей у тым выглядзе, у якім ён быў створаны грамадскасцю, таксама не патрэбны».***

Краявое аддзяленне праваабарончай арганізацыі «Мемарыял» звярталася да губернатара Пермскага краю ў адкрытым лісце, дзе выказвала абурэнне з нагоды таго, што дзверы закрытага для наведвальнікаў музея ўлады расхінаюць для здымак правакацыйнай тэлеперадачы на НТВ, у якіх абліваюць брудам стваральнікаў мемарыяла. «Асаблівае абурэнне выклікае ў нас той факт, што«экскурсію»для тэлевізійных правакатараў даверылі праводзіць былым наглядчыкам калоніі«Перм-36», а таксама прадстаўнікам праславутага руху«Сутнасць часу». У выйшаўшым тэлесюжэце бясконца паўтараецца ідэя неасталіністаў аб тым, што ў калоніі «Перм-36» нібыта адбывалі пакаранне выключна бандэраўцы і памагатыя нацыстаў. І з гэтага робіцца выснова аб тым, што і сам музей будуецца на прафашыстоўскай і антыдзяржаўніцкай ідэалогіі», - пісалі праваабаронцы«Мемарыялу».



Яны нагадалі ўладам, што «выставачныя экспазіцыі і экскурсаводы музея распавядаюць аб тых больш як 50 адсотках зняволеных пермскіх калоній (Перм-35, Перм-36, Перм-37), якія ў 1970-1980-х гадах былі рэпрэсаваныя па палітычных матывах. Акрамя таго, большая частка экспазіцый музея прысвечаная памяці аб ахвярах рэпрэсій больш ранняга, сталінскага перыяду». «І тыя і іншыя рэабілітаваныя як ахвяры незаконных палітычных рэпрэсій, аднолены ў правах паводле расійскага заканадаўства, а таксама заканадаўства краінаў, якія ўваходзілі ў склад СССР. *Гэтыя факты не могуць адмаўляць нават заўзятыя праціўнікі музея. Яны толькі могуць гэта хаваць, а значыць, - наўмысна ўводзіць грамадскасць у зман», - канстатавалі праваабаронцы.*

Вельмі хутка ўся гэтая гісторыя атрымала міжнароднырозгалас, з асуджэннем разбурэння музея сталі выступаць вязні ГУЛАГу з іншых постсавецкіх краінаў. У прыватнасці, на пачатку жніўня з патрабаваннем да расійскіх уладаў спыніць разбурэнне музея - «гістарычнай памяці, якая сведчыць і заўсёды будзе сведчыць аб злачынствах ХХ стагоддзя» - выступілі былыя вязні ГУЛАГа, сваякі зняволеных, даследчыкі, журналісты, праваабаронцы з Украіны. Затым прадстаўнікі няўрадавых арганізацый з Расіі і краінаў Еўрапейскага саюза заклікалі выратаваць мемарыяльны комплекс, пра што 15 жніўня паведаміў сайт Савета пры прэзідэнце Расіі па развіцці грамадзянскай супольнасці і правах чалавека. Як сцвярджаецца ў гэтым паведамленні, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін таксама выказаў заклапочанасць сітуацыяй вакол «Пермі-36».

Але не ўсе паверылі ў шчырасць прэзідэнта Пуціна. Савецкі дысідэнт і неаднаразовы палітвязень Міхась Кукабака, аналізуючы сённяшнюю ідэалогію Крамля, назваў знішчэнне «Пермі-36» «вельмі своечасовай і неабходнай акцыяй» для расійскіх уладаў, якія бачаць небяспеку ў музеі палітычных рэпрэсій. **«На працягу шэрагу гадоў праводзіцца тайная рэабілітацыя сталінскага фашызму. Стала больш жорсткай сакрэтнасць ваенных і даваенных архіваў. Перапісваецца гісторыя пад дыктоўку чарговага «правадыра» Пуціна. Сталін падаецца маладому пакаленню як «эфектыўны менеджэр». З якога, мабыць, варта браць прыклад. Але вось на беласнежнай прапагандысцкай вопратцы непрыемна цямнее пляма музея сталінска-брэжнеўскага Гулага. Людзі наведваюць музей, задаюць пытанні - не заўсёды прыемныя. І тым перашкаджаюць умацаванню вертыкалі ўлады і патрыятычнаму выхаванню (абалваньванню) моладзі. Падобнае нельга трываць. Цалкам можна прадказаць, што нядоўга чакаць, калі на падставе пабудовы нейкага офіса або кафэ прыбяруць і знакаміты Лубянскі Камень, пастаўлены ў памяць аб мільённых ахвярах Гулага. Зразумела, прыбяруць яго выключна з мэтай клопату пра вольны час масквічоў... »**, - мяркуе Міхась Кукабака, які даслаў у Праваабарончы цэнтр «Вясна» свой злабадзённы нарыс.

***Нагадаем, што ў снежні 1988 года ў сувязі з «гарбачоўскай амністыяй палітвязняў» Міхась Кукабака вызваліўся з пермскіх лагераў, быўшы апошнім «палітычным» праз адмову пісаць прашэнне пра памілаванне.***

# Права на жыццё

*Тыдні паўтары таму мне давялося забіраць рэчы расстралянага чалавека. Забіраць разам з яго маці, ад чаго гэта было асабліва цяжка псіхалагічна. Забойства аднаго чалавека нельга выправіць смерцю іншага. Гэта ў старым запавеце быў прынцып “вока за вока, зуб за зуб”. Цяперашні хрысціянскі свет жыве пераважна паводле евангельскіх прынцыпаў Новага запавету. Смяротнае пакаранне ліквідавана ў Еўропе ўсюды. І толькі Рэспубліка Беларусь застаецца апошняй выспай дзікай расправы над злачынцамі, узорам сярэднявечнага дзікунства.*

Мабільныя тэлефоны, пустое партманэ, плыты і касеты расстралянага, нарэшце ягоныя дзяга і пантофлі… Дзве кардонныя скрынкі рэчаў, якія застаюцца маці. Сама яна дагэтуль не верыць, што яе сын здзейсніў такое страшнае злачынства. У гэта сапраўды цяжка паверыць, калі чытаеш ягоныя лісты, якія ён пісаў ужо ў зняволенні, чакаючы спярша найгоршага прысуду, а пасля непазбежнага яго выканання. “Убыл по приговору” – так гэта называецца на іхняй нялюдскай мове, якая заўсёды камуфлюе і скрывае сапраўдны сэнс з’явы. Дзейснае заканадаўства Рэспублікі Беларусь прадугледжвае ня толькі расстрэл за асабліва цяжкія злачынствы, у ім закладзены таксама фактычнае катаванне блізкіх падсуднага. Цела расстралянага паводле яшчэ сталінскага палажэння закону сваякам не аддаецца, а месца яго пахавання таксама не паведамляецца. У дзяржаве, якую цяжка назваць прававой, гэта можа спараджаць розныя домыслы – ці сапраўды расстралялі чалавека, ці не выкарысталі яго цела для нейкіх доследаў, у анатамічных мэтах? А з іншага боку спараджае ў сваякоў асуджанага на смерць ілюзорную надзею на тое, што ён жывы. Сапраўды вельмі жорсткі від псіхалагічнага катавання!..

Ня ведаю як вялося следства ў канкрэтным выпадку, але нават беглы агляд зместу калекцыі музыкі гэтага засуджанага на смерць маладога хлопца прыводзіць да высновы, што з псіхікай у яго былі праблемы, што здаровы чалавек такога слухаць ня будзе. А псіхічна




хворых нельга забіваць, іх трэба ізаляваць ад грамадства, але ніяк не забіваць. Але закон фактычна не пакідае выбару суддзю.

Пакаранне смерцю ніколькі не змяншае зло, а толькі памнажае яго і павялічвае нянавісць. Як адчувае сябе пасля абвешчання такога прысуду суддзя, які нібыта ўсяго толькі выканаў заканадаўства, што яму сніцца, як адбіваюцца на ім праклёны іншых? А нехта ж мусіць яшчэ націснуць курок, скіраваўшы рулю агнястрэльнай зброі ў патыліцу засуджанага да смерці. Колькі такіх прысудаў выканае гэты чалавек, што будзе ўрэшце з яго псіхікай праз пэўны час? Ну і канешне імавернасць судовых памылак. Аднаго гэтага аргументу, як мне падаецца, дастаткова для таго, каб адмяніць смяротнае пакаранне, ц прынамсі абвесціць на яго мараторый. Ужо наколькі адладжаная судовая сістэма ЗША, дзе таксама ў многіх штатах дагэтуль практыкуецца смяротнае пакаранне. Але і там было афіцыйна агучана, што за 80 гадоў на электрычнае крэсла паслалі каля 20 нявінных ахвяраў.

Еўропа сапраўды адмовілася юрыдычна ад смяротнага пакарання. Толькі такая прырода чалавечай супольнасці, што яна ніяк ня можа навучыцца жыць без знішчэння сабе падобнага. З’явіліся вычварэнскія плыні, якія нaўпрост ідуць супраць усіх законаў прыроды, супраць Божага провіду, супраць звычайнай чалавечнасці. І вось ужо на поўным сур’ёзе цягнуць на разгляд законапраекты, якія прадугледжваюць забарону жанчынам нараджаць да дасягнення пэўнага тэрміну гадоў. Прапаноўваецца стэрылізацыя і іншыя злачынствы. Пра аборты тут ужо і не кажу – тыя, што некалі нарадзіліся самы адмаўляюць у праве з’явіцца на свет іншаму чалавеку. Маштабы гэтай з’явы проста прыводзяць у жах. Так што, на жаль, нічога не мяняецца ў прыродзе чалавека праз стагоддзі. Людзі, якія самы хочуць жыць і жыць доўга, адмаўляюць у гэтым праве іншым. Але думаць пра гэта звычайна не хочуць...

***Уладзімір Хільмановіч***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на кастрычнік 2014 году

**1 кастрычніка**

Міжнародны дзень музыкі.

**2 кастрычніка**

Міжнародны дзень лекара.

195 гадоў таму (1819) – У в. Смалічы (Нясьвіжскі р-н, ці ў в. Зубкава, Наваградзкі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 15.9.1818) Аляксандар Незабытоўскі, пісьменьнік, філосаф, гісторык.

**3 кастрычніка**

100 гадоў таму (1914) – Нарадзіўся Ян Новак-Езяранскі (паходзіў з Гарадзеншчыны), польскі грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, журналіст, які спрыяў беларускаму нацыянальнаму руху.

20 гадоў таму (1994) – Памёр Іван Бабіч (нар. у 1930 у в. Бабічы, Глыбоцкі р-н), сябра Глыбоцкай групы Саюзу Беларускіх патрыётаў, вязень савецкіх турмаў. Пахаваны ў Ваўкавыску.

**4 кастрычніка**

85 гадоў таму (1929) – Памёр Пятро Сяўрук (нар. у 1905 у мяст Скідаль, Гарадзенскі р-н), беларускі пісьменьнік, актывіст ТБШ і Грамады. Пахаваны ў Скідалі.

30 гадоў таму (1984) – У мясцовасці Грэвер недалёка ад Лёвена (Бельгія) памёр Аўген Смаршчок, беларускі і бельгійскі педагог, праваслаўны духоўнік. Пахаваны ў Бельгіі. Нараджэнец Зэльвы.




**5 кастрычніка**

Сусветны дзень настаўніка.

130 гадоў таму (1884) – У мяст. Новы Двор (на Сакольшчыне, Беласточчына) нарадзіўся Францішак Грынкевіч, беларускі рэлігійны і культурны дзеяч. У 1909-12 кіраўнік Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі.

**9 кастрычніка**

85 гадоў таму (1929) – У Варшаве памёр Адам Лісоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. Пахаваны на каталіцкіх могілках у Кляшчэлях (Беласточчына). Нараджэнец в. Каранды (Смургонскі р-н).

**10 кастрычніка**

275 гадоў таму (1739) – У Варшаве памёр Дамінік Рудніцкі, пісьменьнік, педагог. Працаваў у Наваградку.

80 гадоў таму (1934) – У в. Радзялавічы (Ганцавіцкі р-н, Берасьцейская вобл.) нарадзіўся Мікалай Варвашэвіч, беларускі тэатральны рэжысёр, заснавальнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатру. Жыў і памёр у Слоніме.

75 гадоў таму (1939) – Бяз згоды Вярхоўнага савету БССР Сталін перадаў Вільню і Віленскі край Летуве. Да Летувы адышлі часткі Астравецкага, Ашмянскага, Вараноўскага і Радуньскага раёнаў.

65 гадоў таму (1949) – Памёр Аляксандар Данілевіч (нар. у мяст. Моўчадзь, Баранавіцкі р-н, 1877), беларускі педагог, матэматык, публіцыст; скончыў Сьвіслацкую семінарыю ў 1896.

**11 кастрычніка**

105 гадоў таму (1909) – У Гародні нарадзілася Зінаіда Бандарына, беларуская пісьменьніца, паэтка.

**12 кастрычніка**

130 гадоў таму (1884) – У в. Лінгі (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Міхал Букляравіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч.

**13 кастрычніка**

130 гадоў таму (1884) – Нарадзіўся Баляслаў Пачопка, беларускі культурна-асьветніцкі і рэлігійны ўніяцкі дзеяч. Працаваў дырэктарам Сьвіслацкай настаўніцкай семінарыі.

**16 кастрычніка**

15 гадоў таму (1999) – Памёр Вацлаў Гебельт, шахматны кампазіст, вязень ГУЛАГу, пасьля вызваленьня ў 1949 жыў да сьмерці ў Лідзе.

**22 кастрычніка**

105 гадоў таму (1909) – У в. Вярбіцы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Раман Лецка, беларускі краязнавец, калекцыянер, вязень савецкіх канцлягераў.

**24 кастрычніка**

15 гадоў таму (1999) – У Якушоўцы (Сьвіслацкі р-н) у час Дня памяці паўстанцаў 1863 году адбылося ўрачыстае адкрыцьцё памятнага крыжа.

**25 кастрычніка**

425 гадоў таму (1589) – Нарадзіўся Ян Станіслаў Сапега, сын Льва Сапегі, дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

**26 кастрычніка**

70 гадоў таму (1944) – На фронце на тэрыторыі Ўсходняй Прусіі загінуў Алесь Мілюць, беларускі паэт. Пахаваны ў брацкай магіле ў пасёлку Ватуціна (Несьцераўскі р-н, Калінінградзкая вобл.). Нараджэнец в. Скорычы (Карэліцкі р-н).

15 гадоў таму (1999) – Памёр Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), беларускі паэт. Нараджэнец в. Чамяры (Слонімскі р-н). Пахаваны ў Слоніме.

**28 кастрычніка**

40 гадоў таму (1974) – Памёр Рыгор Акулевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Грамады і ТБШ, дзеяч эміграцыі ў Канадзе. Нараджэнец в. Вялікая Кракотка (Слонімскі р-н).

Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце **www.racyja.com**

Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце **www. spring96.org**




На сайце **www.palitviazni.info** вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі

Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце **www.harodniaspring.org**



Праваабарончая інфармацыя і іншых рэгіёнаў Беларусі:

Берасце - **www.brestspring.org**
Віцебск - **www.vitebskspring.org**
Гомель - **www.gomelspring.org**
Магілёў - **www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: верасень 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка абавязковая

